Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 9-га лютага 1934 г.

№ 3 (28).

Год 2-гі

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

## За родную школу!

Да сучаснага агульнага эканамічнага крызысу, які ўсюды шалее, на Беларускіх Землях далучыўся сёлета запраўдны ўжо голад сярод вясковых масаў з прычыны неўраджаю. Зусім зразумелая рэч, што ў такіх варунках усё менш і менш бацькоў, якія ў лепшыя гады пачалі вучыць дзетак у беларускіх гімназіях, можа плаціць за навуку і ўтрыманьне дзяцей сваіх у горадзе. І гэта, як ужо ведама, выклікае ўсё часьцей зрыў распачатае навукі і паварот школьнікаў да хаты.

Праўда, сёлета, дзякуючы высілкам самога беларускага грамадзянства, удалося ўратаваць ад звальненьня за няўзнос платы ў школе ўсіх лепшых вучняў, каторым гэта пагражала. Але гэта толькі часовы ратунак, — і хто ведае, як наша вучнёўская бедната здолее выкруціцца ў наступныя паўгодкі — веснавыя, калі настане найцяжэйшая пара ў вясковым жыцьці: прадвесьне.

Ясна, што да справы ўнормаваньня навукі беларускіх дзяцей у беларускіх гімназіях трэба падыйсьці неяк інакш. І, на наш пагляд, падыход гэты, незалежна ад даразнае дапамогі патрабуючым яе, мусіць быць гэткі.

Як ведама, у нас ужо асталіся толькі дзьве беларускія гімназіі — у Вільні і ў Наваградку, дый то не самастойныя, а як філіі польскіх дзяржаўных гімназіяў. Вучняў у іх—ня шмат; калі-ж з прычыны страшэннага зьбядненьня вёскі лічба вучняў пачне далей зьмяншацца, дык школьныя ўлады — „дзеля ашчаднасьці" — могуць гэтыя філіі зьліць з польскімі гімназіямі, да каторых яны прыпісаны. Значыць, трэба нам парупіцца ня толькі аб даразнай дапамозе вучням, якія сяньня ўжо вучацца, каб яны не апынуліся па-за школай за няўзнос платы за навуку, але і аб тое, каб лічба вучняў у беларускіх гімназіях гэтак пэвялічылася, што навет магчымы адыход часткі школьнікаў ня выклікаў бы катастрофы.

Як гэтага дасягнуць?—Каб адказаць на гэтае пытаньне, мусім перш за ўсё высьвятліць прычыну нашае балячкі — малое колькасьці вучняў у нашых гімназіях. Такія прычыны ёсьць дзьве: першая — гэта галіта вёскі, аб якой ужо была ў нас гутарка. Але ёсьць і другая прычына, якая ўтрудняе паступленьне ў беларускія гімназіі вясковым беларускім дзецям незалежна ад заможнасьці ці незаможнасьці іхніх бацькоў. На яе сяньня хочам зьвярнуць увагу.

Справа ў тым, што беларускіх народных („повшэхных") школ цяпер на вёсцы блізу зусім няма. Калі-ж дзе і існуюць гэтак званыя „беларускія" або „польска-беларускія" школы (—колькі ў іх „беларускага", аб гэтым ведама ўсім...), дык усе яны ў найлепшым выпадку маюць па чатыры аддзелы, а то і менш. Тым часам, у сувязі з школьнай рэформай, якая скасавала ў гімназіях першыя дзьве клясы, каб пастуліць у гімназію, трэба скончыць шэсьць аддзелаў народнае школы. Дык вось, нястача шасьці-аддзелавых беларускіх народных школ пазбаўляе беларускіх дзяцей магчымасьці перайсьці з народнае школы ў беларускую гімназію,—навет і тады, калі бацькі і хочуць, і могуць плаціць за іх навуку і ўтрыманьне. І пакуль мы не даб'емся, каб школьныя ўлады паадчынялі хоць па адной беларускай шасьці-аддзелавай народнай школе на павет,—датуль ня будзе і нормальнага прытоку вучняў у беларускія гімназіі, датуль апошнія будуць прадстаўляць будыніну, пабудаваную на пяску—без падмуроўкі.

Беларускае грамадзянства ўжо ня раз у сваіх мэморыялах і іншых публічных выступленьнях падымала гэту справу. Але кожны раз школьныя ўлады адказвалі, што беларускае насяленьне не зварачаецца да іх з дамаганьнем беларускіх школаў, не падае прадугледжаных законам з 31 ліпня 1924 году школьных дэклярацыяў...

Дзіва, што не падае: гэта-ж ад 1925 да 1929 году падаваліся што-годна—пры ўсялякіх вонкавых перашкодах — па 15-20 тысяч дэклярацыяў на беларускія школы, але школьныя ўлады кожны раз не давалі ім ніякага ходу! А колькі людзей пры гэтым пацярпела ад усякага роду рэпрэсіяў,—дык і не палічыш... Дык адгаворка школьных уладаў, што цяпер не падаюцца дэклярацыі, ня мае ніякае істотнае вагі. Але формальна яна —

слушная. І мы мусім узяцца вельмі паважна—і то не адкладаючы—за выпаўненьне вымаганае формальнасьці.

Ведама, у гэткай акцыі павінна прыняць учасьце ўсё сьведамае нацыянальна беларускае грамадзянства, усе беларускія культурна-асьветныя арганізацыі. Трэба толькі паставіць акцыю падачы школьных дэкларацыяў так, каб варожыя „чыньнікі" не здалелі разьбіць яе, „адгаварываючы" бацькоў ад падпісываньня дэкларацыяў ці пасьля „намаўляючы" браць свае дэкларацыі назад, што ў мінулыя гады скрозь адбывалася... Трэба дэкларацыйнай акцыяй абняць у першы чарод тыя мяйсцовасьці, дзе бацькі напэўна будуць цьвёрда стаяць на сваім і не зракуцца сваіх подпісаў пад ворожым націскам.

Да такіх сьведамых і нацыянальна стойкіх бацькоў мы сяньня і зварачаемся. Кожная мяйсцовасьць, якая цьвёрда хоча дабіцца роднае беларускае школы, павінна перад усім зьвязацца ці з беларускім часопісам, які туды даходзіць, ці з тэй культурна-асьветнай арганізацыяй, з якой бацькі бліжэй зьвязаны ідэйна (ТБА, ТБШ, Інстытут Б. Г. і К.). Ад гэтых часопісаў і арганізацыяў яны атрымаюць усе патрэбныя інструкцыі і бланкі дзеля дэкляярацыяў, а ў патрэбе, спадзяемося, можа да іх прыехаць і інструктар, каторы навучыць, што рабіць, каб насяленьне магло скарыстаць з прыналежнага яму паводле закону права.

Дык, бацькі! Цяпер, калі работы на вёсцы ня шмат (— бо няма дзе і на чым працаваць...), згаварывайцеся і пішыце ў Вільню ў тыя беларускія ўстановы, з якімі Вы зьвязаны, трэбуючы інструкцыяў і дапамогі! Паведамляйце аб сваім жаданьні мець беларускую народную школу поўнага тыпу (шасьці-аддзелавую) рэдакцыі беларускіх газэт, і Вашая законная воля мусіць быць урэшце споўнена.

А тады створыцца сама сабой і падмуроўка для беларускіх гімназіяў — гэтых кузьняў, у каторых выкоўваецца нацыянальна сьведамая, неразрыўна зьвязаная з вёскай беларуская інтэлігенцыя.

---

# Новая канстытуцыя Польшчы.

Дзень 26 студня — гістарычны дзень у палітычным жыцьці Польшчы. У гэты дзень Сойм, — праўда, толькі галасамі ўрадавае большасьці—у адсутнасьці пратэставаўшае апазыцыі,—прыняў новую канстытуцыю.

Праўда, апазыцыя кажа, што новая канстытуцыя прынята такім парадкам, якога не прадбачыць ані старая канстытуцыя, ані рэгулямін Сойму. Але—як бы там ні было — новая канстытуцыя сталася фактам, і нашым чытачом трэба мець дакладнае паняцьце аб зьмесьце яе.

### Агульныя падставы.

Разьдзел І пачынаецца словамі: „Польская Дзяржава ёсьць супольнае дабро ўсіх яе грамадзян". На чале Дзяржавы стаіць Прэзыдэнт, каторы „зьмяшчае ў сабе адналітую і непадзельную дзяржаўную ўладу". Прэзыдэнт адказны толькі „перад Богам і гісторыяй".

Як ведама, старая канстытуцыя пачыналася з заявы, што „Польская Дзяржава ёсьць Рэспубліка", у якой—„Вярхоўная ўлада належыць да народу". Гэтак новая канстытуцыя робіць тут паважную зьмену, кажучы толькі аб Дзяржаве і аб носьбіце яе вярхоўнай (адзінай і непадзельнай) улады—Прэзыдэньце, не ўспамінаючы аб суверэнным народзе.

Па новай канстытуцыі Урад, Сойм, Сэнат, Войска, Суд і г. д. ёсьць „органы Дзяржавы, падлягаючыя вярхоўнай уладзе Прэзыдэнта". Па старой—сам Прэзыдэнт (з Урадам) разглядаўся, як „орган (суверэннага) народу"—побач з Соймам, Сэнатам і „незалежным Судом".

На першым пляне новая к-цыя стаўляе не правы, але абавязкі ўсіх грамадзян, на чале з Прэзыдэнтам, а іменна — берагчы і ўзбагачываць гэтае „супольнае дабро" — Дзяржаву. З свайго боку Дзяржава „запэўняе грамадзянам свабоднае разьвіцьцё", але, „калі гэтага вымагае агульнае дабро, надае (гэтаму свабоднаму разьвіцьцю) кірунак, ці нормуе яго варункі". Дзяржава забясьпечывае ўсім грамадзянам роўныя правы бяз розьніцы „паходжаньня, вызнаньня, полу і нацыянальнасьці".

Дакладчык п. Цар (які апрацаваў гэты тэкст) асабліва падчыркнуў у канстытуцыі вымаганьне „салідарнасьці ўсіх грамадзян у іх высілках дзеля дабра Дзяржавы", што, як ён тлумачыў, спыняе правамернасьць у Польшчы барацьбы клясаў.

### Прэзыдэнт і ягоныя правы.

Разьдзел аб Прэзыдэньце дэтальна разглядае вялізарную, блізу абсалютную ўладу асобы носьбіта дзяржаўнага суверэнітэту. Прэзыдэнт запраўды-ж мае ўсю поўню ўлады ў сваіх руках, хутчэй практычна, чым юрыдычна, дзелячыся ёй з падуладнымі яму органамі ў Дзяржаве: выканаўчымі, заканадаўчымі, судовымі. Такая вялізарная ўлада не ўскладае, аднак, на Прэзыдэнта ніякае палітычнае адказнасьці: адказывае ён, як сказана вышэй, толькі „перад Богам і гісторыяй". Праўда, цэлы рад актаў Прэзыдэнта вымагае так-зван. „контр-асыгнаты", ці змацаваньня подпісам галавы Ураду, накладаючы тады на апошняга праўную і палітычную за іх адказнасьць. Але, з другога боку, цэлы рад актаў Прэзыдэнта зусім не вымагае „контр-асыгнаты",—да таго-ж актаў найважнейшага зьместу. Такім чынам — за гэтыя найважнейшага часам зьместу акты ў жыцьці Дзяржавы адказнасьць астаецца запраўды ж толькі „перад Богам і гісторыяй".

Асаблівасьць новае канстытуцыі—спосаб выбару Прэзыдэнта. Па старой канстытуцыі Прэзыдэнт выбіраўся так званым Нацыянальным Сабраньнем, г. зн. на злучаным пасэджаньні Сойму і Сэнату. Новая канстытуцыя перад усім прадбачыць вызначэньне 2 кандыдатаў. Адзін кандыдат выбіраецца спэцыяльным сабраньнем электораў (выбаршчыкаў), якое складаецца з 80 асоб: Маршалкаў Сойму і Сэнату, Старшыні Рады Міністраў, 1-га Старшыні Найвышэйшага Суду, Генеральн. Інспэктара Арміі і яшчэ—з „найбольш дастойных грамадзян, выбраных Соймам — у лічбе 50 і Сэнатам — у лічбе 25". Другі кандыдат выстаўляецца адыходзячым Прэзыдэнтам. Калі сабраньне электораў вызначыць аднаго кандыдата, а стары Прэзыдэнт—другога, у такім выпадку выбары спаміж двух кандыдатаў адбываюцца ўсенародным галасаваньнем. А калі стары Прэзыдэнт згодзіцца з кандыдатурай, выстаўленай сабраньнем электораў, г. зн. свайго кандыдата ня выставіць, або—наадварот, тады гэты адзіны кандыдат—ужо без усенароднага галасаваньня—сам сабой робіцца Прэзыдэнтам.

## Сойм.

Другой, ня менш характэрнай рысай новае Канстытуцыі ёсьць тое, што яна — у адрозьненьне ад старой, якая ставіла Сойм вышэй Сэнату, робіць Сэнат больш уплывовай, фактычна—дэцыдуючай законадаўчай палатай.

Характэрна ўжо самае азначэньне Сойму, як „органу Дзяржавы, адбіваючага публічную апінію" краю — (пагляды грамадзянства), а Сэнату—як „органу Дзяржавы, адбіваючага волю элемэнтаў, найбольш чынных у будаваньні супольнага дабра" краю. Згодна з такім азначэньнем, — Сойму, парляманту, як органу народнае волі, новая Канстытуцыя Польскае Рэспублікі зусім ня ведае. Сойм мае права разглядаць, усталяць бюджэт, раскладаць падатковыя цяжары на грамадзян; мае права кантролю над дзейнасьцяй Ураду. Але зрабіць нейкія практычныя вывады з гэтай сваей апініі — ён ня можа, прынамся—бяз згоды Ураду і Сэнату.

У сувязі з такім зьмяншэньнем ролі Сойму скарочаны і час ягонае працы: звычайная сэсія Сойму скарочана на цэлы месяц (з 5 да 4 мес.). Абмежана таксама права Соймавае ініцыятывы ў часе надзвычайнае сэсіі. Значна абмежана, каб не сказаць: скасавана—і т. зв. „нятыкальнасьць" паслоў: кожны пасол можа быць аддаены пад суд Трыбуналу Стану і пазбаўлены ім мандату—ня толькі на падставе пастановы Сойму ці „жаданьня яго Старшыні", але і „па трэбаваньню мін. справядлівасьці". Ясна, што гэта апошняе аддае ўсю „незалежнасьць" прадстаўніка народу і законадаўчае ўлады цалком у рукі ўлады выканаўчае (Ураду).

Праўда, выбіраецца Сойм, як і дагэтуль, агульным, роўным, простым, тайным і прапорцыянальным галасаваньнем, але за тое век „палітычнага паўналецьця" значна падняты: для выбаршчыка—24 гады (зам. 21), а для кандыдата—да 30 гад. (зам. 25).

## Сэнат.

Кароткі разьдзел аб Сэнаце — найбольш хіба цікаўны і арыгінальны сярод усіх існаваўшых калі-небудзь канстытуцыяў сьвету.

Як ужо сказана, Сэнат ёсьць „орган волі" „найбольш чынных элемэнтаў" Дзяржавы. Сэнат мае наагул такія-ж законадаўчыя правы, як і Сойм. Але можна каротка сказаць, што, калі Сойм мае права падымаць і пачынаць тыя ці іншыя дзяржаўныя справы, дык Сэнат мае права іх вырашаць. У выпадку магчымае нязгоднасьці паміж Соймам і Сэнатам вырашае канчальна, як Найвышэйшы Арбітр (судзьдзя), Прэзыдэнт, але ня Сойм, як было дагэтуль.

Сэнат складаецца з 120 сяброў, якія выбіраюцца на 6 гадоў. Траціна іх назначаецца Прэзыдэнтам, а 2/3 — выбіраюцца. І вось — найбольш цікаўная навіна ў тым, як і кім робяцца гэтыя выбары.

Права выбару ў Сэнат маюць толькі тыя асобы, якія „адзначаны ордэнам Ваеннай Адвагі або Крыжам Незалежнасьці". Такім чынам, Сэнат зьяўляецца—у процілежнасьць дэмакратычна-збудаванаму, але пазбаўленаму волі, Сойму—другой палатай, збудаванай па прынцыпу так-званай „эліты", ці выбранцаў, пры гэтым—эліты пераважна вайсковае, бо-ж адзначанае ваеннымі ордэнамі. Гэтай вайсковай эліце новая Канстытуцыя і дае поўную законадаўчае волі ў краі, як „найбольш дзяржаўна-чынным элемэнтам" у Польшчы пасьля майвага перавароту.

Такім чынам, згодна з слаўнай формулай Лясаля, новая Канстытуцыя зусім дакладна адбіла „Канстытуцыю ня-пісаную", гэта знача—„фактычна ўстанавіўшыяся суадносіны рэальных сілаў у краі".

Ня маем тутака месца для далейшага і дэтальнейшага разгляду новае Канстытуцыі. Адзначым толькі ў заключэньне, што так неспадзявана прыняты Соймам тэкст Канстытуцыі ўзапраўднасьці апрацаваны быў і прадстаўлены Сойму п. Царам толькі, як „Канстытуцыйныя тэзы", ці асноўныя думкі, прынцыпы Канстытуцыі. Таму ў гэтых тэзах проста прапушчана, сьведама ці нясьведама, шмат рэчаў, якія былі ў ранейшай, а навет павінны быць у кожнай Канстытуцыі. Ясна, што новы Сойм і Сэнат павінны будуць першым чынам перапрацаваць гэтыя „тэзы" ў канчальны поўны тэкст Канстытуцыі. А таму трэба думаць, што яшчэ ў гэтым годзе скончыць сваё жыцьцё сучасны Сойм і Сэнат і адбудуцца новыя выбары—ужо па новай Канстытуцыі.

---

**Бацькі!**

**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску.**

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Ад Рэдакцыі.** З прычыны неабходнасьці зьмясьціць сьпешны бягучы матэрыял, гэты нумар выходзіць без „Літ. Кутка" і без „Гаспадарчага аддзелу".

**Ахвяры на плату за навуку незаможных вучняў.** На заклік Беларускага Прафэсіянальнага Вучыцельскага Саюзу на рукі ўраду апошняга зложаны гэткія яхвяры грашмі на плату за навуку тых вучняў беларускіх гімназіяў, каторым пагражае звальненьне за няўзнос платы:

| | | |
|---|---|---|
| Д-р Б. Грабінскі | 20 | зл. |
| А. Луцкевіч | 10 | „ |
| А. Трэпка | 10 | „ |
| Я. Шнаркевіч | 5 | „ |
| В. Грышкевіч | 5 | „ |
| Ул. Манкевіч | 5 | „ |
| Х. Х. | 100 | „ |
| Д-р Шыран | 50 | „ |
| Я. Стэповіч | 5 | „ |
| Ю. Мурашка | 2 | „ |
| Разам | 212 | зл. |

Незалежна ад гэтага, вучыцялямі віленскае беларускае гімназіі (Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Словацкага) зроблена 5% адлічка ад месячнае пэнсіі — на агульную суму **133 зл. 90 гр.**

Разам паступіла ахвяр **345 зл. 90 гр.** Усе грошы аддадзены на паказаную ахвярадаўцамі мэту.

**Юдава работа.** Кс. Адам Станкевіч, які падчас існаваньня „Грамады" і „Змаганьня" усьцяж данасіў на іх у свае́й газэце, як на „камуністаў",—цяпер прадаўжае на страніцах „Б. Крыніцы" сваю юдаву работу ў адносінах да „грамадаўцаў" і „змаганцаў", кіненых Сталіным у лёхі ГПУ. — Дзеля таго, што Сталін і ягоныя найміты абвінавачываюць Дварчаніна і інш. у ідэйнай еднасьці з гр. Луцкевічам, кс. Станкевіч, каб падмацаваць абвіненьне, нанова распачаў сваю старую ілжу і зьвягу на Луцкевіча, не саромлючыся навет фальшаваць гісторыю беларускага адраджэнскага руху. Пры гэтым кс. Станкевіч, адмаўляючы ідэйнасьці тварцом беларускага адраджэньня, адначасна захопліваецца... ідэйнасьцяй Сталіна! Ну, гэта дык ясна і зразумела: яны-ж абодва ў барацьбе з сваімі палітычнымі праціўнікамі карыстаюцца аднолькавай зброяй ілжы і правакацыі... Дык—„абое рабое". Падайце сабе рукі, „таварышы"!

## На правінцыі.

**Чарговая канфэрэнцыя сяброў Бел. Праф. Вучыцельскага Саюзу,** згодна з пастановай апошняга Агульнага Сходу Саюзу, адбылася 3 лютага ў Наваградку—з удзелам віленскіх дэлегатаў, вучыцялёў В. Грышкевіча і М. Ільяшэвіча. На канфэрэнцыі быў абгавораны рад пытаньняў школьна-ўзгадаваўчага характару.—Пасьля канфэрэнцыі лічба сяброў Саюзу значна павялічылася, бо да яго далучыліся і тыя вучыцялі, якія дагэтуль у склад Саюзу не ўвзходзілі.

Пасьля канфэрэнцыі гр. Грышкевіч прачытаў у салі Беларускае Гімназіі (філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ад. Міцкевіча) для вучняў і вучыцялёў цікаўную лекцыю аб беларускай справе ў БССР. На лекцыі былі такжа вучыцялі-палякі з дзяржаўнае Гімназіі ім. Ад. Міцкевіча з дырэктарам апошняе на чале. — Пасьля лекцыі адбыўся канцэрт — з удзелам вучнёўскага хору пад кіраўніцтвам гр. Валынчыка і вучняў-дэкляматараў.

**Спагон падаткаў з галодных сялян ня спыняецца!** Ня гледзячы на афіцыяльнае прызнаньне факту, што ў Віленшчыне пануе запраўдны голад, спагон падаткаў у нас ня спыняецца. Пры гэтым адбываюцца жудасныя сцэны. Так, у вёсцы Пастарыні нашае Вішнеўскае гміны (Вялейскага пав.) 3 лютага секвэстратар з трыма паліцыянтамі з Вішнеўскага пастарунку прыйшоў да кабеты Ядвігі Батуры забіраць карову, але тая карова была чужая, узятая дзеля малака для хворых дзяцей у людзей, бо свае былі цельныя. Гаспадыня не давала браць каровы, дык яе ўзялі сілаю, ад чаго, ведама, на кабеце (яна ў дадатку да ўсяго цяжарная) асталіся вельмі балючыя сьляды... Ня пішу падрабнасьцяў, бо яны лішне жахлівыя. — Ці-ж не дадуць урэшце вышэйшыя ўлады загад аб прыпыненьні гэткіх падзеяў?! **Тутэйшы.**

**З выбарнае агітацыі.** (Вішнеўская гміна Вялейскага пав.). Перад самымі выбарамі ў гмінную раду заварушыліся у нас усе паны і надпанкі, каб прайсьці ў радныя, а то і ў войты. Пачалі езьдзіць па вёсках і заходзіць да сяброў грамадзкіх радаў, намаўляючы,

каб падпісывалі панскія „лісты" кандыдатаў у гміну і галасавалі-бы за іх. Найбольш энергічна дзеяў пан Гедымін-Неверовіч, які раптам надта-ж ужо добрым зрабіўся да сялян, каторыя ў грамадзкіх радах. Раней, як спаткаў, бывала, мужыка, дык нос свой у бок вярнуў, а цяпер за паўвярсты сам перш шапку здымаў, папяроскай частаваў, пра цяжкое жыцьцё распытваўся, а ўканцы — тыц сваю „лісту": „падпішы!" А хто „па-добраму" не падпісываўся, дык таго страшыў, кажучы, што яго „ліста" ёсьць „жондова", і хто яе не падпіша, будзе лічыцца „антыпаньствовцэм" ды „камуністам" і дачакаецца адміністрацыйных караў ды пратаколаў... Але нашыя сяляне, ведаючы панскую пыху, толькі галавой круцілі ды казалі: „Бач, які ласкавы! Ды дарэмна гэта: воўк сабацы не таварыш!"

Няўжо-ж вы, паночкі, думаеце, што мужык за гэтулькі часу не паразумнеў і заўсёды будзе даваць сябе абдурыць? Не, мінуліся ўжо часы нашае цемнаты й дурноты. Мы ведаем, хто мы і хто вы, ведаем, чаго нам трэба, і за сваё будзем крэпка стаяць.

Падарожны.

**Голас з вёскі.** (Гарадзейская гміна, Нясьвіжскі пав.). — Я далёка ад Вас, але дух мой і мысьль—у Вас і з Вамі. Шкадую, што прыходзіцца жыць у ваколіцы бяз жадных нашых арганізацыяў. Абсалютную большасьць складаюць тут каталікі, каторыя думаюць, быццам яны праз гэта сталіся „палякамі". Найгоршая бяда — гэта напамерная цемната і галіта. Асьветы жаднае няма. „Наўчыцельства" і нашае „ўжэндніцтва", пачынаючы ад солтыса, хоць і не палякі, а таксама стараюцца падшывацца пад палякоў і далёка стаяць ад нашага пакутнага сялянства і яго патрэб.

Прачытаўшы ў № 2 „Роднага Краю" стацьцю „Савецкі паход проці беларусаў", я да сягодня не магу прыйсьці да сябе: што гэта ёсьць? Дагэтуль я думаў, што толькі ў Менску свабодна разьвіваецца беларуская культура і наагул жыцьцё беларускае, — а цяпер што?..

Газэту дастаю акуратна, чытаю і разумею, як трэба. — У адным нумары была зьмешчана думка Машары прывезьці із Закапанага на Бацькаўшчыну косьці Бацькі беларускага адраджэнскага руху Івана Луцкевіча. Шчыра вітаю падобную справу; найпатрабнейшую залатоўку адарваўбы ад сваіх патрэбаў, а паслаў-бы на гэтае дзела.

Язэп Ч.

**Асаблівая „інтэлігентнасьць".** (Лужкі, Дзісенскага пав.). Хачу падзяліцца думкай аб нашай сучаснай моладзі. Кепска з ёй. Яна, ведама, імкнулася да нейкага арганізаванага жыцьця, але беларускіх арганізацыяў тут няма, дык і пайшлі да польскіх арганізацыяў, як „Стоважышэнэ Млодзежы Польскей", „Зьвёнзэк рэзэрвістаў" і „Стралец". Але-ж нічога дзеля душы тамака не знайшла, а за тое перарабілі яе на „палякоў" і навучылі, што ўсё беларускае — благое і „хамскае", а польскае—добрае і „інтылігентнае". Дык вёска падзялілася як-быццам на два розныя народы. Кола „С. М. П." заклаў тут нейкі ксёндз і павёў сваю польскую работу так, што цяпер, як да ягоных гадунцоў прамовіш пабеларуску, дык асабліва ад дзяўчат пачуеш адказ: „Бардзо пахамску мувіш, а муў до мне інтылігентне папольску". Ды іх „польшчына" такая, што, як пачне гаварыць каторая, ніяк нельга зразумець навет і добра ведаючы польскую мову. Праз тую „польшчыну" шукаюць знаёмстваў з жаўнерамі,— а за тое, як тыя йдуць са службы да хаты, не адна дзяўчына горка жаліцца, што з ёй пагулялі ды кінулі...

Пры такой рабоце дзеля апалячываньня на маральнасьць моладзі не звярачаецца ніякае ўвагі. П'янства пануе страшэннае. Як дзе вечарына адбываецца, дык прыдуць гэткія „паважныя дзеячы" п'яныя і разганяюць забаву ды б'юцца, а пасьля йшчэ пахваляюцца, якія яны „адважныя". Цёмныя яны, самі ня ведаюць, хто яны і што, бо беларускіх газэт і кніжак ў рукі не бяруць, а йшчэ называюць сябе „інтылігентамі". І гэтым таксама пахваляюцца: „Я не саха, пабеларуску ня чытаю!"—Гэта яны тых, хто выпісывае беларускія кніжкі і газэты, „сахой" называюць,—а самі праз сваю цямноту зразумець ня могуць, што ўсе мы, а таксама й дзяды і прадзеды нашыя, ад гэнае самае сахі паходзім!

Праўда, што некалькі хлапцоў і дзяўчат больш сьвядомых ёсьць і ў нас. Мы дык ведаем, што мы беларусы, і часта, сабраўшыся дзе ў хаце, засьпяваем нашыя родныя беларускія песьні, што так за сэрца хапаюць, ды лявоніху паскачам, аж пакуль не панаходзіць „інтэлігенцыя", п'яная ў дразіну, ды давай „парадкі наводзіць". Сорам і ганьба ім!

**Малады Беларус.**

## У Чэхаславаччыне.

**„Іскры Скарыны".** У Празе вышаў чарговы нумар часопісу „Іскры Скарыны", які зьмяшчае рад тэорэтычных стацей у эсэраўскім духу, цікаўную заметку аб „Гомане" (выдаваным у 1884 годзе) і беларускім тэрорысьце Грыневіцкім, што ў 1881 г. сваей бомбай забіў цара Аляксандра II, — крыху поэзіі (верш „Багі" папаў у друк хіба праз нейкае непаразуменьне, — гэтак ён далёкі ад поэзіі!) ды хроніку жыцьця беларускае эміграцыі, з якой даем ніжэй жменю інфармацыяў.

Гэтак, часопіс адзначае вельмі цяжкі матэрыяльны стан беларускага студэнцтва ў Чэхаславаччыне, якое раней атрымлівала стыпэндыі ад Дапамогавага Фонду Беларускага і Украінскага Студэнцтва, кіраванага ўкраінскім дзеячом д-рам Дністрянскім: у сувязі з агульным эканамічным крызысам фонд пазбаўлены магчымасьці даваць правільную дапамогу моладзі. У студні месяцы выдана была толькі зусім невялічкая дапамога з су-

мы, ахвяраванае прэзыдэнтам Чэхаславаччыны Масарыкам.

29 і 30 красавіка ды 1 мая 1934 г. у Празе адбудзецца сьпявацкая ўрачыстасьць у памяць выдатных чэскіх композытараў. На ўрачыстасьці маюць выступаць хоры ўсіх славянскіх народаў. На жаль, беларускага хору ў Празе няма, дык тамтэйшыя беларусы зварачаюцца да грамадзянства нашага ў Зах. Беларусі, Латвіі і Літве з заклікам прысылаць туды ў вялікшай лічбе сваіх сьпявакаў. Калі ж зрабіць гэтага ня ўдасцца (—пэўне-ж: на гэта патрэбны вялікія грошы, а ў нас народ пухне ад голаду!), — дык беларускія песьні згаджаецца пяяць украінскі хор!

Аглядаючы галасы беларускае прэсы ў Зах. Беларусі, часопіс упамінае і наш орган, кажучы аб ім, быццам ён „вельмі блізка стаіць да рэдакцыі польскае часопісі „Sprawy narodowościowe"... Скуль узята гэтая запраўды-ж фантастычная вестка і каго яна думае абдурыць. — ніяк ня можам зразумець: нам аб гэтым нічога ня ведама! Калі-ж аб гэнай нашай „блізкасьці" часопіс паінфармаваўся ў польскай рэдакцыі, дык хіба самі рэдактары „Іскраў Скарыны" блізкі да яе. Мы—вельмі далёкія.

# Змаганьне з голадам.

### Заклік да помачы галадаючым.

Ваяводзкі Камітэт помачы насяленьню, пацярпеўшаму ад неўраджаю, зьвярнуўся да „ўсіх людзей добрай волі ў Польскай Рэспубліцы бяз розьніцы вызнаньня і напыянальнасьці", — каб грамадой далучыліся да распачатае акцыі Камітэту.

Камітэт просіць усе грашавыя ахвяры скіроўваць на Konto czekowe P.K.O. № 144-400. Іншага роду ахвяры (прадукты, вопратка, боты, кніжкі), як і ўсялякую карэспандэнцыю адрасаваць на Камітэт: Вільня, вул. Магдалены 2, пакой 11, або ў адпаведныя павятовыя камітэты пры Выдзялах Павятовых.

### Ізноў эпідэмія тыфусу.

Як заўсёды ў зьвязку з голадам ды наогул з абніжэньнем жыцьцёвага роўня і сілы насяленьня, у радзе мяйсцовасьцяў Віленск. ваяводзтва (трэба думаць — і ў інш. ваяводзтвах) выбухла эпідэмія тыфусу. За 27 дзён студзеня зарэгістраваны аж 201 выпадак, з іх 8 закончыліся сьмерцяй. Улады, як падаюць газэты, прыступілі да рашучага змаганьня з эпідэміяй. 5 санітарных калёнаў з лекарамі - спецыялістамі на чале выехалі на мейсцы эпідэміі.

З свайго боку горача заклікаем усіх нашых чытачоў прыняць самае актыўнае ўчасьце ў барацьбе, чым мага дапамагаючы санітарным атрадам, агітуючы сярод цямнейшага насяленьня, каб з усей точнасьцю і сумленнасьцю выконывалі загады іх кіраўнікоў, асабліва у акцыі нішчэньня вошаў, праз якія найлягчэй шырыцца страшэнная хвароба. Трэба ўсім пільнаваць, каб ніхто нідзе не хаваў хворых, але наадварот адразу безадкладна паведамляў аб выпадку хваробы у найбліжэйшы лекарскі пункт.

Трэба ўсім памятаць, што найлепшая абарона ад хваробы — гэта чысьціня. Хата, дзе няма вошаў, дзе гаспадыня запарывае варам хусьце, можа быць спакойнай: жудаснага госьця ў ёй ня будзе.

Хлопцы й дзяўчаты павінны на час эпідэміі вырачыся ўсялякіх забаваў, вечарынак, навет натоўпу ў часе хаўтураў і т. д., дзе вельмі лёгка заразіцца.

# Новая спроба асадніцтва.

Польскі часопіс „Kur. Wil." даведаўся, быццам у кіруючых колах Варшавы дасьпявае новая спроба масавага асадніцтва беззработных з усей Польшчы на нашых „Kresach wschodnich". Паводле праекту, асаднікі маюць быць саджаны на зямлю „групамі на некалькі дзясяткоў асоб кожная, каб чым лягчэй маглі ўтрымацца сярод няпрыхільна настроенага да іх (!!) мяйсцовага насяленьня"...

Зямлю для гэтых чужынцаў, каторае нехапае для мяйцовых мала-і беззямельнікаў, праект мае знайсьці ў дастатку, бо аж па 12 гэктараў на кожнага. У дадатку кожнаму з новых асаднікаў мае быць дадзена „пазыка" на будову асады ў сумы 5 тысяч. зл. Такім чынам разам з зямлёй кожны асаднік абойдзецца дзяржаўнаму скарбу па 9 тысяч зл.

Слушна кажа „К. Wil.", што гэтыя грошы было-б шмат карысьней выдаць на стварэньне новых варштатаў працы для гарадзкіх безработных — у гарадзкіх асяродках. Бо-ж новая спроба асадніцтва навет з такім вялізарным накладам грошаў — „ніякай надзеі на ўдачу ня мае"...А пашкодзіць, бясcумліўна, страшэнна! — дадамо ад сябе.

# Зьезд праваслаўнага духавенства.

23-25 студня г. г. адбываўся Зьезд праваслаўных благачынных Віленскай эпархіі.

24. I. на парадку дня было пытаньне аб выкладаньні праваслаўнае рэлігіі ў школах. На гэтае паседжаньне архіяпіскапам Хвядосам быў запрошаны Дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі гр. Р. Астроўскі, які і выступіў перад благачыннымі ў справе падручнікаў па Закону Божаму.

У сваім дакладзе гр. Астроўскі вобразна намаляваў а. а. благачынным той хаос, які пануе ў сучасны мамэнт з выкладаньнем Закону Божага для праваслаўных у школе:аграмадная большасьць праваслаўных законавучыцялёў вядзе лекцыі парасейску, невялічкая жменя — пабеларуску, а падручнікі чамусьці друкуюцца папольску. Сцьвярдзіўшы недапушчальнасьць такога стану рэчаў з пункту гледжаньня педагогічнага, гр. Астроўскі дамагаўся, каб праваслаўнае Духавенства ўрэшце захацела падпарадкавацца эле-

мэнтарнаму пэдагогічнаму прынцыпу ды выкладала Закон Божы 'праваслаўным беларусам выключна пабеларуску. Забясьпечыўшы, зразумела, школы адпаведнымі беларускімі падручнікамі.

Пасьля дакладу гр. Астроўскага выступіў з прамовай — мітынгова-вульгарнай па форме і правакацыйнай па зьместу — прата-іерэй Васілеўскі. Па думцы гэтага „сьв. айца" ўвядзеньне навукі рэлігіі ў беларускай мове—гэта „палітыка" (а чаму расейская і польская мова — не палітыка? Рэд), што Царква інтэрнацыянальная, што Царква праваслаўная пераживае нейкі пераломны мамэнт, што ўсё духавенства віленскае эпархіі—беларусы (?)—і іншыя падобныя недарэчнасьці. Ясна: гэты „бѣлоруссъ" выключна прамаўляў парасейску і відаць шмат чаго не зразумеў з дакладу гр. Астроўскага, які прамаўляў пабеларуску.

Характэрна тут адзначыць, што старшыня Зьезду (—відаць, тожа бѣлоруссъ!) прата-іерэй. Язэп Дзічкоўскі „не дагадаўся" спыніць гэтую недарэчна-вульгарную балтаўню, а пачаў адчытваць нейкую нявыразную пастанову папярэдняга Зьезду ў справе „материнскага языка". Калі-ж хацеў выступіць з падтрыманьнем дамаганьняў гр. Астроўскага адзін з прысутных прата-іерэяў а. Варфаламееў, дык „Васілеўскія" паднялі такі гам, што не далі яму выказацца, а старшыня таксама на гэта не зарэагаваў.

Пасьля гэтага гр. Астроўскі паслаў архіяпіскаму Хвядосу пісьменную заяву, ў каторай між іншым з сумам сцьвярдзіў, што, спаткаўшыся беспасрэдна з вышэйшым духавенствам, якое акружае архіяпіскапа, пераканаўся, што Беларусам з імі не падарозе, а з тыпамі, падобнымі Васілеўскаму, змогуць хіба палемізаваць толькі аўтары розных „Ліхазельляў", кожны-ж паважаючы сябе чалавек на гэты шлях ня ўзыйдзе. Урэшце гр. Астроўскі выказаў думку, што шуканьне нейкага кампрамісу з такім духавенствам было-б зусім бязмэтным, і, відаць, трэба распачынаць беларускай праваслаўнай інтэлігэнцыі ад „Ізгнанія" ўсіх таргуючых і спэкулюючых на праваслаўнай веры з царкоўнай агарады.

Гожа адзначыць, што орган кс. Станкевіча „Бел. Крыніца", як відаць, зусім салідарызуецца з сьв. Васілеўскім і ў апошнім нумары апраўдывае варожае да беларускае мовы адпошаньне праваслаўнага духавенства... Уся бяда мае быць у тым, што не супрацоўнік кс. Станкевіча, ведамы „Цюцік", выступаў на зьезьдзе, а—іншая асоба! — Ну і дагаварыўся!

## Рыначныя цэны ў Вільні. (9. II. 1934).

Жыта 2 зл. 55 гр. дэт. 2 зл. 60 гр. Ячмень гурт. 2 зл., 50 гр. дэт. 2 зл. 60 гр. Авёс гурт. 1 зл. 80 гр дэт. 2 зл. 00 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 00 гр. дэт. 3 зл. 20 грашей. Бульба пуд. 1 зл., дэт. 1 зл. 20 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр.—2 зл. 00 гр. Даляр 5 зл. 51 гр.

# Палітычная хроніка.

**Бюджэт у Сойме.** Бюджэтная камісія Сойму ў канцы месяца закончыла дэтальны разгляд бюджэту. У сваім рэфэраце [на апошнім паседжаньні камісіі генаральны дакладчык п. Медзінскі падаў цэлы рад азнакаў таго, што гаспадарчы крызыс у Польшчы, як і дзе інш у сьвеце, падыходзіць к канцу.

Пасьля кароткай дыскусіі камісія прыняла праект скарбовае ўставы, усталіўшы агульную суму даходаў на 2 мільярды 136 мільёнаў 254.150 зл., а выдаткаў—на 2 мільярды 184 552.593 зл. Такім чынам бюджэт збалянсаваны з недахопам у суме 48 мільёнаў з лішкам.

У панядзелак 5-га студня распачалася агульная бюджэтная дыскусія на плевуме Сойму.

**Польска-нямецкі трактат аб узаемным ненападаньні.** Дзень 26 студня адзначаны ў гісторыі Польшчы падпісаньнем польска-нямецкага пакту аб узаемным вырачэньні тасаваньня ўсялякага аружнага гвалту дый аб вырашэньні ўсіх спорных спраў шляхам беспасярэдніх перагавораў.

Як у Нямеччыне, так сама і ў Польшчы вельмі здаволены гэтым пактам.

---

**Вялікая прамова Сталіна на 17-тым кангрэсе ком. партыі.** На 17 кангрэсе ўсесаюзнай ком. партыі Сталін сказаў 3-гадзінную прамову, у якой, пасьля выхваленьня гаспадарчых дасягненьняў савецкага ўраду, даў агляд „буржуазнага акружэньня СССР". Разглядзіўшы прычыны сучаснага крызысу, Сталін сказаў, што залішне цешыцца з „паляпшэньня сытуацыі" няма падставаў: тымчасовая палёгка ў крызысе тлумачыцца ажыўленьнем толькі ў... ваеннай прамысловасьці, якая ізноў, як было перад вайной, у шалёным тэмпе павялічвае збраеньні капіталістычнага сьвету, усьцяж пагражаючы новай вайной...

У вельмі сільных словах Сталін зьвярнуў увагу ўсяго сьвету на правакацыйную палітыку Японіі, якая можа, ня глядзячы на ўсё „міралюбіе" СССР, выклікаць вайну на Далёкім Усходзе. Але дарэмна думае Японія, што яна ізноў спаткае ў вайне такога-ж слабога праціўніка, якім была царская Расея.—„Не,—на ўсякі ўдар мы адкажам ударам!"—перасьцерагаў Сталін японцаў.

**Прамова Варашылава.** На XVII кангрэсе Компартыі Варашылаў сказаў вялікую прамову, у якой казаў аб сільных і слабых баках савецкай арміі. Вельмі рэзка савецкі ваенны камісар закідаў Японіі падрыхтоўку і правакаваньне вайны з СССР, але заявіў, што вайны гэтай Саветы не жадаюць, але й не баяцца. Наагул, сказаў савецкі міністар, „ніякая сьвіное або й яшчэ агіднейшае рыла не застрашыць бальшавікоў, скуль-бы яно ня сунулася ў СССР".

**Паразуменьне „джэнтльмэнаў".** З Вашын-

гтону йдуць сэнсацыйныя весткі аб тым, быццам японскі пасол запрапанаваў Рузвэльту падпісаць „паразуменьне джэнтльмэнаў“ у справе ўзаемнае гарантыі мірнага сужыцьця на Вялікім акеане. Пасол заявіў, што Японія была-б рада, калі-б да гэтага паразуменьня далучыўся яшчэ і трэці „джэнтльмэн“, г. зн.—Савецкая Расея, якая зусім нясолушна бачыць нейкую пагрозу вайны з боку Японіі...

**22 кілёмэтры у вышыню...** Новы палёт савецкіх лётчыкаў у т. зв. стратосфэру на спэцыяльна збудаваным аэрастаце распачаўся вельмі ўдатна. Паветраны шар узьляцеў на рэкордную вышыню звыш 22 кілёмэтраў. На няшчасьце, спускаючыся ўніз, шар трапіў у паласу ўраганнага ветру, які адарваў гандолу ад балёну. Сарваўшыся з значнае вышыні, гандола разьбілася, пры чым забіліся да сьмерці ўсе тры адважныя лятуны. Згінула і большасьць іх навуковых апаратаў.

XVII кангрэс компартыі аддаў урачыста апошні доўг маладым гэроям навукі. Але ўся эміграцкая прэса закідае камандзірам компартыі, што гэта яны якраз і забілі слаўных маладых вучоных і лятуноў, змусіўшы іх да „агітацыйнага“ лёту — якраз у часе працы кангрэсу,—тады, як усе вучоныя спэцыялісты радзілі адлажыць палёт да больш адпаведнага ды бясьпечнейшага часу.

**Перабудова Нямецкае дзяржавы.** 30 студзеня нямецкі парлямант прыняў урадавы праект закону аб новай арганізацыі ўнутранага ладу Нямецкае дзяржавы. Нямеччына ад гэтага дня перастае быць саюзнай дзяржавай, а робіцца „адзінай і недзялімай“. Усе парляманты былых паасобных саюзных дзяржаваў Нямеччыны, як і іх урады, касуюцца цалком; адзіным і супольным парлямантам для ўсяе дзяржавы зьяўляецца Рэйстаг, і бэрлінскі ўрад кіруе Нямеччынай непадзельна. Адначасна Рэйхстаг упаважніў бэрлінскі ўрад апрацаваць новую канстытуцыю для адзінай і непадзельнай Нямецкай Рэспублікі.

**„Не для Гогэнцолераў пасланы ложак“...** Калі Гітлер з сваімі таварышамі даходзілі да ўлады, шырока карыстаючыся кішэнёй манархістаў: нямецкіх абшарнікаў і буйных прамыслоўцаў, — апошнія гучна трубілі аб тым, што палітычная мэта ўсяго іх руху — гэта адбудаваць нямецкую манархію, без якой нямецкі народ загіне... Але, калі ўлада была здабыта, Гітлер зусім не сьпяшаўся з гэтай „адбудовай“, кажучы ўсьцяж, што „пара йшчэ ня прыйшла“. Але ў апошні час, калі акцыя манархістаў пачала запраўды ўздымаць народны рух на карысьць манархіі, Гітлер з сваімі міністрамі ўжо зусім перасталі хавацца. Яны адкрыта абвясьцілі манархістаў такімі-ж ворагамі народу і дзяржавы, як і камуністаў, ды пачалі садзіць адных і другіх у „лягеры“ і вастрогі. У сваей апошняй прамове продзі манархістаў мін. Фрык дасьціпна заявіў, што — „зусім дарэмна некаторыя высокія асобы (чытай: былы імпэратар Вільгэльм з сваімі сынамі і прагавітым акружэньнем трону) думаюць, што мы паслалі ложак для іх, каб ім выгодна было спаць. Не, мы зрабілі гэта — для сябе“...

Прынамся — шчыра й адкрыта!

**Новы ўрад Далядье. Крывавыя падзеі ў Парыжу.** Чарговая шматмільёнавая афэра нейкага Ставіскага, „нагрэўшага“ на сотні мільёнаў урадавыя і прыватныя банкі ў-ва ўсей Францыі, выклікала выбух абурэньня, які звалія ўрад Шотана: бо ж цэлы рад вышэйшых урадавых і судовых саноўнікаў, а так сама дэпутатаў урадавых партыяў, аказаліся замешанымі ў афэру. Новы ўрад Далядье (які нядаўна быў прэм'ерам) абяцаў срога пакараць усіх кумпанаў Ставіскага.

Аднак, даверу і новы ўрад у грамадзянстве не знайшоў. На вуліцах Парыжа пачаліся бурныя дэманстрацыі проці ўраду. Асабліва вострыя дэманстрацыі адбыліся 6-га лютага. Урад, апрача паліцыі, выпусьціў проці дэманстрантаў нацыянальную гвардыю. Дзеля таго, што натоўп дасяг лічбы 60,000 душ і хацеў прарвацца праз паліцэйскі кордон у парлямант, войска пачало страляць. 30 душ лягло намейсцы, звыш 500 — ранены. Многа арыштаваных, — у тым ліку 8 радных м. Парыжа.

У выніку гэтых падзеяў і ўрад Далядье падаўся у адстаўку. Прэзыдэнт даручыў утварэньне новага ўраду быламу прэзыдэнту Думэргу. Калі і гэты прэм'ер ня дасьць рады ў парляманьце, апошні мае быць распушчаны і будуць вызначаны новыя выбары.

**Амэрыка разбройваецца...** Амэрыканскі ўрад пастанавіў павялічыць паветраны флёт Злуч. Штатаў з 1800 самалётаў да 4834, а лічбу авіяцыйнага пэрсоналу з 15.000 да 48.000.

## Паштовая скрынка.

**Да ўсіх бібліятекароў ТБШ.** Сэкрэтар'ят Т-ва Бел. Асьветы гэтым паведамляе, што выслаў вывескі для бібліятэкаў-чытальняў. Вывескі трэба аправіць у рамку пад шкло і павесіць на відным мейсцы, з паказаньнем, у якія дні і гадзіны бібліятэка-чытальня адчынена. Падатак за вывескі ня плоціцца.

Гр. Г. Леўковіч. (Слонім). Падпіску на газэту „Родны Край“ атрымалі. Календар са сьценкай Вам высланы. Просьба Ваша аб высылцы Вам пробных нумароў бел. часопісаў перадана гр. Манкевічу.

## Перачытаўшы газэту — перадай другому.

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22